З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Вадзім ДЗЕВЯТОЎСКІ: «Мы нікога не прымушаем удзельнічаць у паўмарафоне...»

*Старшыня Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі адказаў «Народнай Волі», навошта падчас пандэміі праводзіць забег, у якім плануе ўзяць удзел больш за 40 тысяч чалавек.*

Як паведамлялася раней, масавы забег запланаваны на 13 верасня. Рэгістрацыя ўдзельнікаў працягваецца, і, калі дынаміка захаваецца, Мінскі паўмарафон раней часу дасягне ліміту ў 42 тысячы ўдзельнікаў.

– У Беларусі працэс рэгістрацыі ідзе даволі інтэнсіўна, а вось замежнікі пакуль узялі паўзу, – кажа **Вадзім ДЗЕВЯТОЎСКІ**. – Тут ужо з'яўляюцца бар'еры ў выглядзе ўзаемадзеяння краін у сувязі з пандэміяй: патрэбны дазвол не пераезды, пералёты і вяртанне дадому. Наколькі мне вядома, у некаторых краінах спартсменаў, якія возьмуць удзел у Мінскім паўмарафоне, будуць адпраўляць пасля вяртання дадому на каранцін. Таму зараз больш рэгіструюцца беларусы і расіяне, якія жадаюць прабегчы дыстанцыю.




Увогуле, чакаем, як далей будзе развівацца сітуацыя. На сённяшні дзень перанос мерапрыемства не плануецца. Як кажуць, шляхоў назад няма.

**– Вы можаце даць гарантыю, што нехта з удзельнікаў не будзе хворы на каранавірус? Усе 40 тысяч бегуноў здадуць тэсты, пройдуць медыцынскі агляд?**

– Гэтыя пытанні, відаць, трэба задаваць бліжэй да канца жніўня. Сёння мы бачым, што Еўропа выходзіць з самаізаляцыі, але пакуль не магу сказаць, як мы будзем арганізоўваць медыцынскі кантроль удзельнікаў перад стартам.

У Еўропе ўжо пачалі праводзіць спартыўныя спаборніцтвы. Паводле маёй інфармацыі, у верасні пройдзе велагонка Тур дэ Франс. І восенню запланавана вельмі шмат спартыўных спаборніцтваў, у тым ліку і забегаў. Гэта ж не проста так. Відаць, пралічваюць сітуацыю.

Паўтаруся: адмяняць паўмарафон мы ў любым выпадку не будзем, але, калі сітуацыя з каранавірусам стане крытычнай, перанясём мерапрыемства на іншую дату. Хаця зараз жа мы бачым, што ў краіне ідзе зніжэнне захворвання на каранавірус. Веру, што за паўтара месяца сітуацыя радыкальна зменіцца ў лепшы бок.

**– Чаму ў гэтым годзе, калі такая складаная эпідэміялагічная сітуацыя, наогул не адмовіліся ад правядзення паўмарафону? Навошта ладзіць такое масавае мерапрыемства і падвяргаць небяспецы здароўе людзей? Я ведаю, што многія краіны адмовіліся праводзіць традыцыйныя марафоны...**

– Яны адмовіліся ад тых мерапрыемстваў, якія павінны былі прайсці вясной, калі быў пік пандэміі. Мы, напрыклад, таксама вырашылі не праводзіць 9 мая «Забег мужных».

Але веру, што ў верасні ўсё будзе добра. Калі сітуацыя пагоршыцца альбо не палепшыцца, то ніхто рызыкаваць здароўем людзей не будзе.

І хачу адзначыць, што народ рэгіструецца на забег больш чым актыўна. Людзі самі сочаць за тым, якая сітуацыя з каранавірусам, ніхто ж сябе не захоча падстаўляць. А мы нікога не прымушаем удзельнічаць у мерапрыемстве. Гэта справа выключна добраахвотная.

**– А як правядзенне паўмарафону стасуецца з тым, што эпідэміёлагі да гэтага часу раяць людзям трымаць дыстанцыю, насіць па магчымасці маскі, абмяжоўваць кантакты на вуліцы? Вы ж адкрыта ігнаруеце ўсе гэтыя рэкамендацыі. Не думаю, што падчас забегу нехта будзе трымаць дыстанцыю ці бегчы ў масцы...**

– Давайце зыходзіць з таго, што гэта сёння гучаць такія рэкамендацыі, а зараз ні пра паўмарафон, ні пра 40 тысяч чалавек на гэтых спаборніцтвах размова не ідзе. У той жа час мы бачым, што яшчэ два месяцы таму ў Беларусі было 900 захварэлых у суткі, а зараз – каля 160. Станоўчая дынаміка ёсць? Безумоўна!

Таму мы, натуральна, прытрымліваемся і рэкамендацый Міністэрства аховы здароўя, і Міністэрства спорту, і іншых краін.

А гэтыя пытанні вы мне лепш задайце за тры-чатыры дні да пачатку паўмарафону. Вось тады будзе прадметная размова. А пакуль да забегу яшчэ паўтара месяца. Але, паверце мне, цікавасць да гэтага мерапрыемства ў людзей проста неверагодная.

**– Якая эпідэміялагічная абстаноўка павінна быць у краіне, каб паўмарафон 13 верасня адбыўся? Ёсць нейкія крытэрыі?**

– Будзем зыходзіць з лічбаў Міністэрства аховы здароўя па захварэлых на каранавірус у суткі і з той сітуацыі з пандэміяй, якая будзе ў верасні. Усё прааналізуем і напрыканцы жніўня прымем рашэнне. За паўтара месяца можа што заўгодна адбыцца. Ніхто ж не выключае, што восенню можа і другая хваля захворвання пайсці.

**– Хто канкрэтна будзе прымаць рашэнне?**

– Толькі адна наша федэрацыя такую адказнасць на сябе не возьме, таму будзем раіцца і з Міністэрствам спорту, і з Міністэрствам аховы здароўя.

**Алесь СІВЫ.**

ДУХОЎНАЕ

Уладзімір ЛІПСКІ

## «Памілуй і ўзвысь» Малітвы.

*(Працяг. Пачатак у №№ 53-58)*

13 **Дзеткі мае! Давайце будзем любіць не словам і не языком, а справаю і ісцінаю.**

*Першае Пасланне святога Яна, 3: 18*

Дзеці мае родныя!
Унукі мае любыя!
Як жа давесці да вас,
каб вы паверылі,
што добрае не любіць
выходзіць за дзверы,
а благое бяжыць
за тысячы кіламетраў?
Усё добрае — вечнае.
Усё благое — разбуральнае.
Пазбягайце пустых слоў і спраў,
бо выйсце адно — раскаянне.
Роздум, маўклівасць, сціпласць —
якасці, прыдатныя для размовы,
спосаб многаму навучыцца.
Любіце жыццё не словамі,
а справамі і праўдаю.
Гэта вялікае і цяжкае выпрабаванне,
але ж і золата нараджаецца
не на паверхні зямлі,
а ў глыбокіх нетрах.
Маладосць — адзіны недахоп,
які выпраўляецца самім жыццём.
Усё астатняе выпраўляйце любоўю,
з ёю служыце людзям,
сваёй Радзіме.
І тады аніякія нягоды
не састарацць вас.
Настане ўзрост мудрасці,
які даецца Божым абраннікам.
Любоў — гэта залаты ключык,
якім можна адамкнуць
і замкнуць сэрца.
Шукайце гэты ключык у сваіх справах,
шукайце яго ў вечаровых малітвах,
калі спавядаецеся
за пражыты дзень.

*Амін.*

14 **Плавільня — на срэбра, і горніла — пад золата, а сэрцы выпрабоўвае Гасподзь.**

*Кніга Мудрасці Саламона, 17: 3*

Госпадзе!
Выпрабуй мяне, маё сэрца.
Агонь ачышчае золата
ад прымешкаў,
і я хачу ачысціцца.
Гадзіннік,
які адмярае зямны час,
не падказвае,
што рабіць у цяжкія хвіліны.
Падкажы, Божа,
як успрымаць паразы:
гэта ўрок жыццёвы
ці маё нявер'е ў Тваю сілу?
На беразе багата разумных,
калі ўсчынаецца шторм на моры.
Навучы, Божа, пераадольваць
нягоды, страх, няшчасці, буры.
Дай убачыць плады майго сэрца.

І я адчую Цябе,
Творца на небе,
убачу
Тваё святло і свой шлях,
успрыму
Тваю мудрасць і любоў,
адчую
Тваю веліч і ўсёмагутнасць —
і пайду за Табой,
каб на схіле жыцця
не вінаваціць сябе.
Хай будзе так!

*Амін.*

ШАХМАТЫ

### Памяці сябра

Пайшоў з жыцця наш чытач, адданы прыхільнік шахматнай кампазіцыі **Мікалай Іосіфавіч Наруць** (1935–2020). Урач па прафесіі, ён жыў у Плешчаніцах Лагойскага раёна. Пачынаючы з 1962 года апублікаваў некалькі дзясяткаў задач, пераважна мініяцюр. Захапляўся таксама завочнай гульнёй у шахматы, абараніўшы званне кандыдата ў майстры спорту. Іграў на баяне, ствараў музычныя кампазіцыі і песні. Калегі-шахматысты ведалі яго як добразычлівага, шчырага чалавека.

Прапануем адну з задач Мікалая Наруця *(гл. дыяграму)*.




**Белыя:** Кре1, Ла1, Лh4 (3).
**Чорныя:** Крb3, пс3 (2).
**Мат за 3 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул. Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

### Творчы дуэт

Не адно дзесяцігоддзе мацнейшымі эцюдыстамі Беларусі, вядомымі далёка за яе межамі, былі **Георгій Афанасьеў** (1909–1971) і **Яўген Дзвізаў** (1937–2012). Разам мэтр і яго вучань склалі шмат кампазіцый, якія заваёўвалі ўзнагароды ў прэстыжных спаборніцтвах. Прааналізуем два эцюды гэтага творчага дуэта.

Наступны эцюд заняў высокае 4-е месца ў адным з камандных першынстваў СССР.

**Белыя:** Кра1, Ке6, пп. е5, f5 (4).
**Чорныя:** Крf3, Ле7, п. h7 (3).
**Выйгрыш.**

Рашае 1.f6! Ла7+ 2.Крb2 Лb7+ 3.Кра3! Кре4! 4.Кс7! Кр:е5 5.f7 Лb8 6.Ке8 з выйгрышам.

Калі пераставіць Ле7 на h3, атрымліваецца блізня, у якім рашэнне іншае: 1.f6! Кре4 2.f7! Лh1+ 3.Крb2 Лf1 4.Кf4! Л:f4 5.е6.

Вось яшчэ адзін эцюд Г.Афанасьева і Я.Дзвізава.

**Белыя:** Крg2, Кс8, пп. g6, h2, h3 (5).
**Чорныя:** Крd5, Лh6, пп. b7, f7, h5 (5).
**Нічыя.**

Рашае 1.Ке7+! Креб 2.g7 Кр:е7 3.h4!! *(не вядзе да мэты 3.g8К+? Креб 4.К:h6 b5 з выйгрышам чорных)* Лg6+ 4.Крh3! f5 5.g8Ф Л:g8 – пат.

### Гуляе «шахматная эліта»

Чарговы анлайн-турнір з удзелам 12 мацнейшых гросмайстраў зладзіў чэмпіён свету Магнус Карлсен. Вось некалькі партый з гэтага спаборніцтва.

***Магнус Карлсен – Хікару Накамура***

1.d4 Kf6 2.c4 e6 3.Kf3 d5 4.Kc3 Ce7 5.Cf4 0-0 6.a3 Kbd7 7.Kb5 Ke8 8.e3 dc 9.C:c4 c5 10.dc a6 11.Kbd4 C:c5 12.0-0 Фe7 13.Лc1 Cd6 14.Ca2 Kdf6 15.Ke5 Kd7 16.Kdc6 Фh4 17.Cg3 Фg5 18.h4 Фf6 19.Kg4 Ф:b2 20.C:d6 bc 21.Лc2 Фb5 22.C:f8 K:f8 23.h5 h6 24.Фf3 Ф:h5 25.Ф:c6 Kc7 26.Фf3 Kd5 27.e4 e5 28.K:h6+, 1:0.

***Данііл Дубаў – Магнус Карлсен***

1.d4 Kf6 2.Kf3 d5 3.c4 c6 4.Kc3 e6 5.g3 Kbd7 6.Cg2 Ce7 7.0-0 0-0 8.b3 b6 9.Лe1 Ca6 10.Kd2 Лc8 11.Cb2 c5 12.dc K:c5 13.b4 Kce4 14.Kc:e4 de 15.b5 Cb7 16.e3 Cb4 17.Лe2 Фd3 18.Лb1 Cc3 19.Ca3 Лfd8 20.Лb3 Ф:c4 21.Фe1 Фd5 22.Cb4 Ф:b3 23.ab C:b4 24.Cf1 a5 25.Фd1 h6, 0:1.

***Уладзіслаў Арцем'еў – Пентала Харыкрышна***

1.Kf3 Kf6 2.c4 c5 3.Kc3 Kc6 4.d4 cd 5.K:d4 e6 6.e4 Cb4 7.K:c6 bc 8.Cd3 e5 9.0-0 0-0 10.h3 d6 11.Ce3 C:c3 12.bc Kd7 13.Фd2 Kc5 14.Cc2 Ce6 15.Лfd1 Kb7 16.c5 dc 17.Ф:d8 Лf:d8 18.Л:d8+ Л:d8 19.Лb1 Kd6 20.a4 Kc4 21.C:c5 a5 22.Ce7 Лc8 23.Лb7 h6 24.Kpf1 c5 25.Kpe1 Лc6 26.Лb5 Ka3 27.Лb8+ Kph7 28.Cb3 C:b3 29.Л:b3 Kc4 30.Лb5 Лc7 31.C:c5 f6 32.Kpe2 Лd7 33.Ce3 Лc7 34.Kpd3 K:e3 35.fe Лd7+ 36.Kpc2 Kpg6 37.Л:a5 Kpg5 38.g3 h5 39.Лd5 Лc7 40.a5, 1:0.

### Калі страшны не допінг...

У большасці відаў спорту вядзецца барацьба з допінгам. А вось у шахматыстаў галоўны вораг іншы – «чыцерства». Так называюць недазволенае выкарыстанне камп'ютарных праграм падчас партыі. Нават некалькі гросмайстраў у свой час папаліся на карыстанні падказкамі. З парушальнікамі змагаюцца, але цяпер, калі спаборніцтвы збольшага перамясціліся ў інтэрнэт, кантраляваць гульцоў стала яшчэ складаней. Такія інцыдэнты здараюцца, у некаторых турнірах асобныя ўдзельнікі былі дыскваліфікаваны.

### Праверце адказы

Задача ***А.Караля***, змешчаная ў «Народнай Волі» 23 чэрвеня, рашаецца: **1.Ch8!** Не вядуць да мэты спробы 1.Ce1? Kd1! або 1.Cd2? Kc4 (ці 1... Kd1)!

Першымі правільна рашылі ***Сяргей Галкін, Мікалай Шклярэўскі, Ігар Ананіч, Васіль Жуковіч, Віктар Жук, Сяргей Цяльпук.***

**Вадзім ЖЫЛКО.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## Як будзе выглядаць форма беларускіх алімпійцаў?

*Днямі была прэзентавана лінейка спартыўнага адзення для нацыянальнай зборнай Беларусі на Алімпіядзе ў Токіа, якую перанеслі з гэтага года на наступны.*



Калекцыя стала вынікам супрацоўніцтва мастака-мадэльера ААТ «Світанак» **Міхаіла Мытніка** і вядомай плыўчыхі **Аляксандры Герасімені.**

Паводле слоў старшыні канцэрна «Беллегпрам» **Таццяны Лугіной**, у конкурсе бралі ўдзел 15 прадпрыемстваў розных формаў уласнасці. Было некалькі этапаў адбору, і на апошніх самі спартсмены тэсціравалі адзенне і давалі яму ацэнку.

Калекцыя для нацыянальнай зборнай пакуль трымаецца ў тайне, але некаторыя мадэлі вырашылі прэзентаваць і даць іх у продаж.

У форме выкарыстоўваюцца поліэфірныя «разумныя» ніткі, якія добра ўбіраюць вільгаць, і Аляксандра Герасіменя адзенне ацаніла: «*Яно вельмі камфортнае – з прахалодай. У гарачае надвор'е – проста выдатна!*»

**Віктар ШПАК.**

ФУТБОЛ



## Дзесяць галоў на дваіх

*Адбыліся матчы 19-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Асабліва вызначыліся барысаўскі БАТЭ і салігорскі «Шахцёр», якія ў гэтым туры былі вельмі выніковымі. Барысаўчане перамаглі «Мінск» – 6:0, а салігорская каманда не пакінула шанцаў «Смалявічам» – 4:0.

Астатнія вынікі: «Рух» (Брэст) – «Славія» (Мазыр) – 3:3, «Віцебск» – «Слуцк» – 2:0, «Іслач» (Мінскі раён) – «Дынама» (Брэст) – 2:0, «Белшына» (Бабруйск) – «Нёман» (Гродна) – 0:1, «Дынама» (Мінск) – «Гарадзея» – 1:0, «Энергетык-БДУ» (Мінск) – «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – 1:4.

*Фота: fcminsk.by.*

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Шахцёр | 19 | 10 | 7 | 2 | 33–9 | 37 |
| БАТЭ | 19 | 11 | 4 | 4 | 39–18 | 37 |
| Нёман | 18 | 10 | 4 | 4 | 23–13 | 34 |
| Дынама (Мн) | 19 | 9 | 3 | 7 | 22–13 | 30 |
| Тарпеда-БелАЗ | 19 | 8 | 6 | 5 | 25–21 | 30 |
| Віцебск | 19 | 7 | 8 | 4 | 20–18 | 29 |
| Энергетык-БДУ | 19 | 9 | 2 | 8 | 26–29 | 29 |
| Дынама (Бр) | 17 | 8 | 2 | 7 | 31–22 | 26 |
| Іслач | 19 | 8 | 2 | 9 | 22–25 | 26 |
| Рух | 19 | 6 | 8 | 5 | 26–20 | 26 |
| Славія | 18 | 6 | 5 | 7 | 24–32 | 23 |
| Слуцк | 18 | 6 | 3 | 9 | 21–29 | 21 |
| Гарадзея | 19 | 5 | 4 | 10 | 17–30 | 19 |
| Мінск | 17 | 5 | 3 | 9 | 19–35 | 18 |
| Смалявічы | 18 | 3 | 5 | 10 | 20–31 | 14 |
| Белшына | 19 | 2 | 4 | 13 | 15–38 | 10 |

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №93/106 ад 30.04.2004. Пр-т Незалежнасці, 79/1, 220013, г. Мінск. Падпісана ў друк 27.07.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 505 экз. Заказ № 2310.